


ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")

Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK

Printing Office: Buchdruckerei der Apostolischen Visitatur, München 8, Rosenheimer Straße 46a. — Telefon-Nr. 45 81 43

Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA"
München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 10 (89) — Нядзеля, 9 сакавіка 1952 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 6


# Неразуменьне ачавідных справаў ці сьвядомае дзеяньне?

У папярэднім нумары «Бацькаўшчыны» мы паінфармавалі нашых чытачоў аб г. зв. Амэрыканскім Камітэце Вызваленьня Народаў Расеі ў сувязі з назначэньнем на становішча ягонага прэзыдэнта адмірала Кэрка. Там-жа мы падчыркнулі вялікую й важную ролю гэтага Камітэту, якую маніцца ён адыграць у нясеньні помачы для змаганьня паняволеных народаў з бальшавізмам, і выразілі надзею, што Камітэт гэты пры новым прэзыдэнце магчыма спыніць свой русафільскі курс і прапагаваньне «адзінай і недзялімай», што найбольш вызначала ягоную палітычную лінію пры ранейшым прэзыдэнце сп. Э. Ляёнсе.

Гэтыя нашыя спадзяваньні зьяўляюцца, аднак, моцна сумліўнымі, калі ўзяць пад увагу, што сп. Ляёнс, уступіўшы із прэзыдэнцтва Камітэту, затрымаў за сабою важнае ў ім іншае становішча — адміністрацыйнага дырэктара. Што ён зьяўляецца наважаным русафілам, гэта нам было добра ведама, але тое, што ён да фанатычнага засьляпленьня зьяўляецца энтузыястым і безаглядным абаронцам расейскага імпэрыялізму, як далёка ня ўсе навет расейцы, мы даведаліся толькі цяпер зь ягонага артыкулу «Падарак Эчысона Сталіну», надрукаванага ў амэрыканскім журнале «Фрымэн», які перадрукавала расейская прэса, як «узор правільных дачыненьняў да праблемаў змаганьня з камунізмам і вызваленьня паняволенай ім Расеі» (заўвага рэдакцыі газэты «Посев» за 24. 2. 1952 г.).

Гэты артыкул ёсьць ськіваваны супраць ведамай прамовы міністра замежных справаў ЗША Эчысона, супраць якой у свой час таксама запратэставалі на балонах «Нью Ёрк Таймс» расейскія палітыкі ў ЗША, у тым ліку й Керэнскі. У ўспомненай прамове міністар Эчысон здабыўся на адвагу сказаць незапярэчную гістарычную праўду, што творцы расейскай палітыкі «царскія й камуністычныя» былі заўсёды, «агрэсарамі й імпэрыялістымі» аднаго й таго самага тыпу. «Ясна, — гаварыў ён, — што гэты працэс захопу й умацаваньня, дзякуючы якому Расея вырасла за апошнія 500 год з Маскоўскага княства ў вялізарную імпэрыю, павінен быць астаноўлены».

Вось-жа сп. Ляёнс, прыймаючы на сябе ня зусім пахвальную ролю адваката расейскага імпэрыялізму, востра выступіў супраць утажсамліваньня амэрыканскім міністрам царскага расейскага імпэрыялізму зь імпэрыялізмам Сталінскім, як і супраць распадзелу самой Расеі на нацыянальныя гаспадарствы паняволеных народаў. На апраўданьне й абяленьне расейскага імпэрыялізму высоўвае ён тры, паводля яго, найважнейшыя й найбольш мерадайныя аргумэнты, якія ў сутнасьці сваей нічога новага ня прыносяць і ад аргумэнтаў найбольш ярых расейскіх імпэрыялістых нічым абсалютна ня розьняцца. Калі такія пагляды заўсёды й усюды выказваюць многія расейцы, то мы ўжо не зьвяртаем на іх ніякае ўвагі, бо гэта старая й агульнаведамая расейская песьня. Але паскольку гаворыць гэта з такім перакананьнем амэрыканец, выдатны амэрыканскі публіцысты ў грамадзкі дзеяч, які, будучы адным зь кіраўнікоў Амэрыканскага Камітэту, а да апошняга часу й ягоным прэзыдэнтам, прэтэндуе да ўплыву на праблему падсавецкага Ўсходу, мы змушаныя над гэтым коратка спыніцца. Мы мусім паказаць, як глыбака й бязвольна знаходзяцца некаторыя ўплывовыя амэрыканцы ў палоне забойчага й для самой Амэрыкі расейскага імпэрыялізму й у якім кірунку яны намагаюцца фармаваць апінію амэрыканскага грамадзянства.

Тры ўсопомненыя аргумэнты сп. Ляёнса, якія ён высоўвае дзеля сьцьверджаньня «няправільнасьці» й палітычнай «шкоднасьці» заявы міністра Эчысона, зьяўляюцца наступныя:

1. Міністар Эчысон, — цьвердзіць сп Ляёнс, — утажсамліваючы Сталінскі імпэрыялізм з расейскім імпэрыялізмам царскае эпохі ды асуджаючы яго, гэтым самым пасярэдна высказваецца за распадзел расейскае імпэрыі, чым настройвае расейскі народ супраць Амэрыкі. Ён між іншым піша: «Афіцыяльнай тэзай, на якой базуюцца ўсе напады Крамля на свабодны сьвет, зьяўляецца цьверджаньне, што Захад ненавідзіць савецкі рэжым і што гэты стары імпэрыялістычны Захад ставіць сабе за мэту заваяваньне й распадзел Расеі, што зла жылася гістарычна». Пры гэтым сп. Ляёнс падчырківае, што гэтыя пагляды міністра Эчысона зьяўляюцца не арыгінальнымі. Ён раз цьвердзіць, што яны былі «інсьпіраваныя, проста або пасярэдна, найбольш скрайнымі ўкраінскімі сэпаратыстымі, то ўзноў на іншым месцы артыкулу дашукваецца ў іх уплыву нямецкай усходняй палітыкі Гітлера, калі падчас апошняй вайны расейскі народ выступіў у вабароне Сталіна, пабачыўшы, што ў нямецкіх плянах быў распадзел Расеі. Таму, на думку сп. Ляёнса, міністар Эчысон гэтым сваім выступленьнем «даў Крамлю падарак нязвычайнай цэннасьці. Сваім выступленьнем ён як-бы прызываў расейскі народ задзіночыцца каля Сталіна, як спадкаемніка й захавальніка ягоных традыцыяў і ягонага лёсу, што зьяўляецца вельмі цэнным для Палітбюро».

Гэты аргумэнт сп. Ляёнса зьяўляецца непасрэдна ўзятым з багатага арсэналу прапагандовых трыкаў расейскіх імпэрыялістых, які ня вытрымлівае ніякай аб'ектыўнай крытыкі. Бо калі міністар Эчысон, паводля сп. Ляёнса — «прызываў расейскі народ задзіночыцца каля Сталіна», дык тады сам Сталін, загарантоўваючы ў сваей канстытуцыі ўсе нацыянальныя правы нерасейскіх народаў уключна з правам аддзяленьня ад Савецкага Саюзу, вядзе якраз палітыку адваротную — разадзіночваньне між сабой і расейскім народам. Нехта можа сказаць, што гэтыя гарантыі Сталінскай канстытуцыі зьяўляюцца адно толькі тэорыяй, за якой хаваецца праціленжны ей зьмест. Згода! Але ў Савецкім Саюзе ня толькі канстытуцыя, але й усе абапёртыя на ей законы зьяўляюцца таксама ўсяго толькі папяровай тэорыяй. Іншым і ня можа быць таталітарны характар дзяржавы расейскага тыпу, якая, будучы ў істоце свай недасягнутым узорам хвальшу, прыгнёту й несправядлівасьці, імкнецца мець на вонкі найвялікшы ўплыў на народныя масы ўсяго сьвету. Але ў дадзеным выпадку дыктатар Сталін аказаўся ў сваім тэарэтычным разьвязаньні нацыянальнага пытаньня больш «дэмакратычным», чымсьці сам стапрацэнтны «дэмакрат» сп. Ляёнс.

2. У далейшым сп. Ляёнс выступае супраць усякага ўтажсамліваньня бальшавізму з расейскім народам. «Выступленьні амэрыканскай прэсы й публічныя выступленьні нашых палітыкаў, — піша ён, — гаворачыя, што савецкая дыктатура — гэта той-жа самы стары расейскі рэжым, дасканала прэпаруюцца ў Маскве для цытаваньня і, зразумела, служаць пацьверджаньню ідэі Сталіна, як аб расейскім патрыёце, спадкаемніку Пятра Вялікага й Івана Грознага, самаахвярна баронячым запраўдныя народныя інтарэсы».

Мы згодныя із сп. Ляёнсам, што вынішчальная захопніцкая палітыка ў дачыненьні да нерасейскіх народаў была, на думку расейскіх імпэрыялістых, выражэньнем расейскіх «запраўдных народных інтарэсаў». Але мы ніяк ня можам зразумець, каб абаронцам і ідэалізатарам такой палітыкі быў якраз амэрыканскі «дэмакрат», тады, калі на-

(Заканчэньне на 2 балоне)

# Гістарычнае значэньне Лізбонскай Канфэрэнцыі

Ад 20 да 25 лютага сёлета адбывалася 9-ая канфэрэнцыя Рады Атлянтычнага Пакту ў сталіцы Партугаліі Лізбоне. Каб належна ацаніць ейныя вынікі, не ад рэчы будзе прыраўняць гэтую канфэрэнцыю да 6-ай асамблеі Задзіночаных Нацыяў у Парыжы, якая закончылася 6-га лютага сёлета. Гэтая асамблея трывала 81 дзень, адбылося ў суме 666 наседжаньняў як пленарных, гэтак і ў пасобных камісыях, у якіх прыняло ўдзел 1.129 дэлегатаў ад 60 дзяржаваў — сяброў ЗН. На парадку дня стаяла мноства першарадных і менш важных справаў, і,... пасьля доўгіх дэбатаў, прамоваў, дыскусыяў, галасаваньняў, бадай што аніводнае пытаньне ня было канчальна разьвязанае. Дзейнасьць гэтай арганізацыі, як ведама, паралізуецца ўжо ў сваім зародку дэструкцыйным захоўваньнем Савецкага Саюзу й ягоных сатэлітаў, а таму ЗН сталіся фактычна толькі трыбунай для прапагандовых прамоваў.

Інакш было ў Лізбоне. Тут сабралася толькі 35 міністраў замежных справаў, абароны й фінансаў чатырнаццацёх дзяржаваў — удзельнікаў Атлянтычнага Пакту (ЗША, Канады, Вялікабрытаніі, Францыі, Італіі, Бэльгіі, Даніі, Ісляндыі, Люксэмбургу, Галяндыі, Нарвэгіі, Партугаліі і ў першы раз — Турэччыны й Грэцыі). Нарады канфэрэнцыі трывалі ўсяго 6 дзён, падчас якіх былі аднагодна й пазытыўна вырашаны бадай што ўсе справы, што стаялі на парадку дня. Паколькі некаторыя пытаньні парадку дня мелі першараднае, навет сусьветнае значэньне, публічная апінія сьвету прывязвае вялікую вагу да гэтых пастановаў і аднагодна падчырквае вялікі сукцэс канфэрэнцыі. Гэтаксама й удзельнікі нарадаў назвалі канфэрэнцыю найбольш удалаю за ўсе, што адбываліся да гэтага часу.

На гэтай канфэрэнцыі наступіла ўпяршыню канстытуцыйна-дагаворанае задзіночаньне збройных, гаспадарскіх і палітычных сілаў эўрапэйскага кантынэнту, справа збройных сілаў Атлянтычнага Пакту — НАТО і эўрапэйскай арміі — ЭОС была канчальна вырашанай, тэарэтычна сталася дакананым фактам.

Перад трыма гадамі, 3 красавіка 1949 г. быў у Вашынгтоне падпісаны Атлянтычны Абаронны Пакт 12-ці дзяржаваў пра ўзаемную абарону й дапамогу на выпадак варожай агрэсыі. На працягу гэтых трох год адбылося 8 канфэрэнцыяў, на якіх вяліся шырокія дыскусыі, шукаліся спосабы разьвязаньня розных труднасьцяў і ўзаемных супярэчнасьцяў, апрацоўваліся стратэгічныя й арганізацыйныя пляны, аднак справа збройных сілаў Пакту ўсё не магла яшчэ выйсьці паза межы тэарэтыхных разважаньняў і стацца канкрэтным, дакананым фактам.

Арганізацыя збройных сілаў НАТО напатыкалася на тры асноўныя перашкоды:

1. Спасярод эўрапэйскіх удзельнікаў Пакту было многа такіх, якія ўважалі, што канкрэтная рэалізацыя збройных сілаў НАТО й прыцягненьня да іх немцаў можа справакаваць Маскву. Яны ўважалі, што Масква, пабачыўшы, што Эўропа пачынае арганізаваць сваю абарону не на жарты, прысьпешыць супраць яе сваю збройную агрэсыю, пакуль яшчэ Атлянтычная армія не разбудаваная й пакуль саветы маюць эфэктыўную вайсковую перавагу.

2. Раўналежна з гэтым у Амэрыцы тармазілі ўсю справу іншыя пэсымістыя, якія цьвердзілі, што ў заплянаваных збройных сілах НАТО Амэрыка бярэ на сябе за вялікія забавязаньні, зь якіх або ня здолее вывязацца або давядзе край да поўнага вычарпаньня, інфляцыі й эканамічнай руіны.

3. Амэрыка ўвесь час стаяла на становішчы, што абарона Эўропы бяз удзелу Нямеччыны — гэта ўтопія, а таму высказвалася катэгарычна за прыцягненьне Заходняй Нямеччыны да ўдзелу ў вабароннай сыстэме эўрапэйскага Захаду. Супраць гэтага мела вялікія засьцярогі Францыя, якая ўжо тры разы — у 1871, 1914 і 1939 г. г. — моцна пацярпела ад нямецкай агрэсыі. У французаў быў большы страх перад магчымай небясьпекаю з боку ўзброенай Нямеччыны ў будучыні, чымсьці перад сучаснаю, зусім рэальнаю, загрозаю небясьпекі з боку Савецкага Саюзу.

Усе гэтыя труднасьці непасрэдна перад Лізбонай, як і ў самой Лізбоне былі аднак пераможаныя, а спорнае пытаньне Францыя — Нямеччына было разьвязанае кампрамісам. Паймена, напярэдадні Лізбонскай канфэрэнцыі на нарадзе Вялікай Тройкі ў Лёндане (ЗША, Вялікабрытанія й Францыя) французы атрымалі запэўненьне ад амэрыканцаў і вялікабрытанцаў, што яны затрымаюць і надалей свае збройныя сілы ў Эўропе, як гарантыю перад загрозаю Францыі з боку новага нямецкага імпэрыялізму. Таксама было пастаноўлена, што й надалей будзе праводзіцца кантроля нямецкай ваеннай прадукцыі.

Да важнейшых «гістарычных» пастановаў Лізбонскай канфэрэнцыі належаць наступныя:

Атлянтычная Рада дэфінітыўна пастанавіла стварыць эўрапэйскую армію з удзелам вайсковых кантынгэнтаў Францыі, Італіі, Нямеччыны, Бэльгіі, Галяндыі й Люксэмбургу. Пры гэтым было пастаноўлена, што агрэсыя супраць аднэй якой-небудзь дзяржавы — удзельніка эўрапэйскай абароннай супольнасьці будзе разглядацца, як агрэсыя супраць усіх удзельнікаў Атлянтычнага пакту.

Таму што Нямеччына пакуль што да НАТО не належыць, ейная бясьпечнасьць і ейныя абавязкі ў дачыненьні да НАТО былі разьвязаныя наступнай арганізацыйнай структурай гэтых абедзьвюх фармацыяў: ЭОС (эўрапэйская армія) мае дзеіць у рамах НАТО (збройныя сілы Атлянтычнага Пакту), пры чым НАТО будуць забавязаныя даць безадкладную дапамогу кажнаму сябру ЭОС; паколькі Нямеччына зьяўляецца сябрам ЭОС, гэтым самым гарантыі з боку НАТО расьцягваюцца й на Нямеччыну. І наадварот, цераз ЭОС, Нямеччына будзе забавязваная бараніць у выпадку агрэсыі кажнага ўдзельніка НАТО.

Наступнай важнай пастановай была згода ўсіх удзельнікаў на выстаўленьне да канца бягучага 1952 году збройных сілаў НАТО ў вышыні 50 дывізыяў, якія маюць складацца з 6-ці дывізыяў ЗША, што знаходзяцца ў Нямеччыне, далей брытанскіх, канадыйскіх, данскіх, нарвэскіх, як і дывізыяў, заплянаваных для эўрапэскае арміі. У гэты лік 50 дывізыяў не ўваходзіць 12 нямецкіх дывізыяў, так як у бягучым годзе яны ня будуць яшчэ сфармаваныя, а таксама турэцкія (15 дывізыяў) і грэцкія (тры дывізыі), бо ў часе, калі спэцыяльная камісыя апрацоўвала гэты абаронны плян, абедзьве гэтыя дзяржавы ня былі яшчэ сябрамі НАТО. Апрача гэтага, да канца бягучага году збройныя сілы НАТО будуць мець у сваім распараджэньні 4.000 баёвых самалётаў.

Што тычыцца фінансавых выдаткаў на разбудову збройных сілаў НАТО, дык пастаноўлена, што да канца 1954 г. на гэтую мэту будзе выдаткавана 300 мільярдаў даляраў.

Гістарычнае значэньне Лізбонскай канфэрэнцыі заключаецца ў тым, што Эўропа, у вабліччы няўхільнай небясьпекі перад савецкай агрэсыяй, змагла здабыцца на станоўкасьць і супольнасьць дзеяньня, перамагла вялізарныя труднасьці й нутраныя супярэчнасьці, і гэтым самым уступіла ў фазу арганізаваньня калектыўнай абароны. Пастановы Лізбонскай канфэрэнцыі яшчэ вымагаюць ратыфікацыі парлямантаў пасобных дзяржаваў, яшчэ на шляху сваей рэалізацыі напэўна сустрэнуцца зь не малымі перашкодамі, тым ня менш аднак запачаткоўваюць яны новую эру для Эўропы — эру цеснага эўрапэйскага супрацоўніцтва й арганізаваньня супольнай калектыўнай абароны.

(—іч)

## Толькі собскімі сіламі

Уся наша нацыянальна-палітычная дзейнасьць, усе нашыя імкненьні й думкі накіраваныя на зьдзейсьненьне найвялікшага нацыянальнага ідэалу — здабыцьця незалежнасьці Беларусі. Дзяржаўная незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны, сяньня паняволенае, эксплаатаванае й вынішчанае расейскім бальшавізмам, прадстаўляецца нам, як зьява бясспорная й бяздыскусыйная, якая, як гістарычная канечнасьць, мусіць наступіць пасьля зьнішчэньня бальшавізму.

Гэта ўсё праўда, навет сьвятая праўда, бо адзінай перадумовай здабыцьця нашым народам поўных магчымасьцяў выяўленьня сваіх творчых здольнасьцяў і разьвіцьця сваіх духовых сілаў, матарыяльных вартасьцяў і прагрэсу зьяўляецца собская незалежная дзяржава, у якой ён будзе не пасыўным аб'ектам чужацкае, шкоднае й крыўднае для яго палітыкі, але актыўным суб'ектам, будзе сам сваімі собскімі рукамі фармаваць сваё жыцьцё й тварыць лепшую будучыню для прышлых пакаленьняў. Беларускі народ у мінуўшчыні на працягу доўгіх стагодзьдзяў быў народам дзяржаўна творчым і здаў свой гістарычны экзамен. А гэта найлепшы й незапярэчны доказ, што й будучую сваю дзяржаву, аднаўленую пасьля жорсткае няволі, ён патрапіць павесьці па шляху ейнага ўмацаваньня й шырокага агульнанароднага прагрэсу для дабра свайго собскага й на карысьць усяе людзкасьці.

Сьцьвярджаючы гэтую праўду, мы вельмі мала, а часта й зусім не задумваемся над тым, як будзе выглядаць будучы працэс стварэньня нашае дзяржаўнасьці, у якіх умовах і акалічнасьцях будзе гэты працэс праходзіць, якія цяжкасьці й перашкоды мы сустрэнем на сваім вызвольным шляху, якія неабходна будзе зрабіць мерапрыемствы, каб нашыя незалежніцкія імкненьні ўкаранаваліся пасьпехам. Уяўляючы сабе вялізарную складанасьць і скамплікаванасьць гэтае справы, многія з нас стараюцца для сьвятога собскага спакою аб ей сяньня ня думаць, збываючы гэтае пытаньне звычайным пацяшаньнем сябе, што неяк-жа ды будзе, або ўважаючы, што беларускі народ у сваей цэлай шматмільённай масе выступіць у вадпаведны мамэнт і супольнымі высілкамі здабудзе собскую дзяржаву, а, калі будзе патрэбна, дык і сілаю аружжа задакумэнтуе сваю волю. Іншыя ўзноў-жа надзеяцца, што пераможныя дзяржавы, а ў першую чаргу Амэрыка, якія пасьля наступнай вайны будуць мець вырашальны голас у сьвеце, самым ужо аўтарытэтам сваей палітыкі й сілы вырашаць наш будучы лёс, а гэтаму вырашэньню змушаныя будуць падпарадкавацца ўсе нашыя суседзі, ня гледзячы на тое, ці будзе гэта адказваць іхным плянам, ці будзе ім супярэчыць.

Вось-жа з асаблівым націскам трэба падчыркнуць, што ўсе такія думкі й спадзяваньні зьяўляюцца наіўным і ў сваіх выніках шкодным упрошчваньнем справы. Незалежная беларуская дзяржава сама сабой аўтаматычна ня створыцца, за яе прыдзецца актыўна змагацца зь нязвычайным напружаньнем усіх нацыянальных сілаў, змагацца ня толькі палітычна, але, — што ёсьць ня выключаным — і з аружжам у руках. Спадзяваньні на актыўную інтэрвэнцыю Амэрыкі й іншых дзяржаваў Захаду ня маюць пад сабою цьвёрдае падставы. Імкненьні Амэрыкі на выпадак вайны будуць ськіваваныя да мілітарнае перамогі й зьнішчэньня бальшавіцкага рэжыму, — і толькі. Цяжка сабе ўявіць, каб Амэрыка актыўна ўмешвалася ў «нутраныя справы» сяньняшняга падсавецкага прастору. Амэрыка будзе мець бясспрэчна сваю канцэпцыю разьвязаньня нацыянальнага пытаньня эўрапэйскага Ўсходу й падсавецкай Азыі, але няма ніякіх гарантыяў, што гэтая ейная канцэпцыя будзе йсьці па лініі нашых нацыянальных інтарэсаў. Калі-б-жа яна й адказвала нашым нацыянальным імкненьням, то й тады наіўным было-б думаць, што амэрыканскі жаўнер сілаю зброі будзе бараніць нашую нацыянальную справу й стане на варце нашых дзяржаўных межаў да часу, пакуль беларускі народ не зарганізуе сваіх збройных сілаў і яго не заменіць. Інтэрвэнцыя Захаду паза межы палітычнага ўзьдзейваньня напэўна ня выйдзе. Справа канкрэтнага вырашэньня лёсу

(Заканчэньне на 3 балоне)

# Неразуменьне ачавідных справаў ці сьвядомае дзеяньне?

(Заканчэньне)

вет сумленныя расейцы, — бо ёсьць і такія — гэтай палітыкі саромяцца й на яе не паклікаюцца. Што-ж тычыцца цьверджаньня сп. Ляёнса, што бальшавізм — гэта адно, а расейскі народ — зусім другое, што між гэтымі паняцьцямі ня існуе ніякая сувязь, то мы хацелі-б толькі запытаць сп. Ляёнса: дык адкуль-жа гэты бальшавізм узяўся, хто зьяўляецца яганым носьбітам, што ёсьць яганай жыватворчай базай? Аддзяляць бальшавізм ад расейскага народу, гэта зусім тое самае, што аддзяляць гітлерызм ад народу нямецкага, які ў запраўднасьці яго выгадаваў і надаў яму няўстрыманы разгон. Прыпісваць нерасейскае паходжаньне расейскага бальшавізму на тэй падставе, што фактычнымі кіраўнікамі Савецкага Саюзу зьяўляюцца сяньня нерасейцы Сталін і Бэрыя, як гэта робяць некаторыя расейцы, зусім тое самае, што прыпісваць нерасейскагае паходжаньне расейскага імпэрыялізму часоў Кацярыны II, якая была чыстакроўнай немкай. Ужо ўсестаронна на гістарычных фактах дадзена, што бальшавізм паўстаў як сымбіёза інтэрнацыяналізму з расейскімі нацыянальнымі элемэнтамі й расейскай нацыянальнай традыцыяй, у якой гэтыя апошнія элемэнты — нацыянальна расейскія з кажным годам прыходзяць да што раз мацнейшага голасу, а савецкі імпэрыялізм зьяўляецца простым прадаўжэньнем імпэрыялістычнай палітыкі царскай Расеі, палітыкі таго-ж Івана Грознага й Пятра Вялікага, якая паводля сп. Ляёнса, была выражэньнем расейскіх «запраўдных народных інтарэсаў». На жаль, ёсьць так а ня йначай!

3. Але свой «дэмакратызм» найлепш сп. Ляёнс паказаў у сваей абароне гэтага расейскага імпэрыялізму. У яганым артыкуле мы знаходзім між іншым і такія «рэвэляцыі»: «Напад дзяржаўнага сакратара на Расею зьяўляецца зусім неадпаведным. Любая другая вялікая дзяржава на працягу стагодзьдзяў расшыралася дакладна таксама, як і Расея, за кошт суседзяў, шляхам «захопу й умацаваньня», вайной, агрэсыяй і каляніцацыяй. Абвінавачваньне, якое Эчысон высоўвае супраць Расеі, на столькі сама адносіцца да Вялікабрытаніі, Францыі, Аўстра-Вугоршчыны й Нямеччыны. Ён мог-бы прызнаць гэта справядлівым навет у дачыненьні да нашай собскай краіны, якая — і не ў 500 год, а ў 150! — з прыбярэжнай паласы на Атлянтычным акіяне вырасла да разьмераў цэлага кантынэнту».

У далейшым, паклікаючыся на вывады прафэсара Гарвардзкага ўнівэрсытэту (мы знаем палітычную лінію гэтага ўнівэрсытэту!) М. Карповіча, сп. Ляёнс робіць наступныя «дэмакратычныя» й «антыімпэрыялістычныя» вывады: «Наводзіць на Расею спэцыяльнае абвінавачаньне за гістарычны працэс, супольны ўсім сучасным імпэрыялістычным дзяржавам, гэта фарызэйства і нонсэнс. Яно ствараецца, каб апраўдаць загрозу «распадзелам» («расчлененіем») краіны, як гэта было сказана ў «Таймс», — але гэта амаль самагубства з гледзішча запраўднага змаганьня супраць сусьветнага камунізму».

У вабароне расейскага імпэрыялізму, які тут узводзіцца чуць не на вышыню гістарычнай сьвятасьці, пасягаць на якую зьяўляецца «фарызэйствам», далей ужо йсьці нельга. Таксама нельга ісьці далей і ў вачавіднай грубой тэндэнцыйнасьці, а навет сьвядомым ці несьвядомым хвальшаваньні гістарычных фактаў.

Даволі высунуць два мамэнты, каб пабачыць, што ўся тэорыя сп. Ляёнса, пры помачы якой ён магаецца апраўдаць і абяліць у істоце сваей найбольш брудны расейскі імпэрыялізм, апіраецца на гліняных нагах.

**Па першае:** ні ў якім выпадку нельга ставіць знаку роўнасьці паміж расейскім імпэрыялізмам, а імпэрыялізмамі ўспомненых амэрыканскім публіцыстым іншых дзяржаваў. Імпэрыялізм Вялікабрытаніі й Францыі меў выключна на мэце эканамічную эксплаатацыю каляровых народаў, што сталі на прымітыўнай узроўні свайго разьвіцьця, ён ня толькі ня меў характару нацыянальнага прыгнечаньня й асымілятарскіх тэндэнцыяў, але, наадварот, спрычыняўся да культурнага й нацыянальнага прагрэсу каляніяльных народаў. Экспансія амэрыканцаў з Атлянтычнага прыбярэжжа на Захад амэрыканскага кантынэнту была асвойваньнем «нічыіх земляў», рэдка заселеных прымітыўнымі з культурнага й грамадзкага гледзішча індзейскімі плямёнамі. Імпэрыялізм нябожчыцы Аўстра-Вугоршчыны й Нямеччыны трохі нагадвае характер расейскага імпэрыялізму, але ў сваім тэрытарыяльным абсягу й у сваіх дэнацыяналізатарскіх імкненьнях зьяўляўся толькі няўдалай копіяй імпэрыялізму расейскага, які ставіў і ставіць сабе за мэту неабмежаваны падбой і захопніцтва што раз новых народаў, іхнае жорсткае паняволеньне ня толькі эканамічнае, ня толькі палітычнае й сацыяльнае, але, і у першую чаргу, нацыянальнае — поўнае, навет фізычнае вынішчэньне ўсяго нацыянальна творчага элемэнту заваяваных краёў і асыміляцыю іхных народных масаў. Праступны характар расейскага імпэрыялізму й гэносыдызм выступіў ня толькі ў Сталінскім выданьні гэтага імпэрыялізму, такімі якасьцямі адзначаўся й імпэрыялізм царскага ўзору. І такі імпэрыялізм бароніць амэрыканскі «дэмакрат» сп. Ляёнс!

**Па другое:** Прыпусьцім, што расейскі імпэрыялізм зусім ня горшы за імпэрыялізмы пералічаных вышэй дзяржаваў. Дык няўжо сп. Ляёнс ня хоча зразумець, што ўсе гэтыя імпэрыялізмы належаць ужо да гісторыі, што, калі яны й былі абумоўленыя гістарычнымі працэсамі мінуўшчыны, дык сяньня ўжо, аджыўшы свой век, зыйшлі із сцэны.

Многанацыянальная Аўстра-Вугоршчына й Турэччына, аб якой сп. Ляёнс не гаворыць, ужо даўно разваліліся іменна з прычыны свайго многанацыянальнага складу. Вялікабрытанія сама, безь ніякіх плебісцытаў, дае дзяржаўную незалежнасьць сваім заморскім уладаньням, калі каляніяльныя народы гэтай незалежнасьці жадаюць, ня гледзячы на тое навет, ці яны да гэтай незалежнасьці поўнасьцю дасьпелі, ці не (прыкладам Лібія). За Вялікабрытаніяй ідзе й Францыя. Каб паўстрымаць рост нямецкага імпэрыялізму гітлераўскага ўзору, які далёка не дараўноўваў імпэрыялізму расейскаму, Захад наважыўся панесьці вялізарныя собскія ахвяры, абвышчаючы вайну Нямеччыне. І гэтак усюды — паняволеньне чужых народаў сталася ўжо сяньня гістарычным анахранізмам, нягодным сучаснае дэмакратычнае эпохі. Дык паклікаючы на імпэрыялізмы ўспомненых дзяржаваў, якія ўжо перасталі быць імпэрыялістычнымі, для апраўданьня расейскага імпэрыялізму й далейшага захаваньня яганых здабыткаў, як гэта намагаецца рабіць сп. Ляёнс, зьяўляецца ў найлепшым выпадку зусім хвальшывай інтэрпрэтацыяй гістарычных працэсаў.

Трэба ведаць, што такіх амэрыканцаў, як сп. Ляёнс, ёсьць ня мала. У гэтым і хаваецца тая трагэдыя, што афіцыяльная амэрыканская палітыка зьяўляецца да апошняга часу ў васнаўным прарасейскай палітыкай, што яна дагэтуль не змагла яшчэ здабыцца на тое, каб вызнаць за ўсімі народамі ўсе тыя нацыянальныя правы, якія вынікаюць з дэмакратычных ідэяў сучаснай эпохі — зь ідэяў вольнасьці, справядлівасьці й права кажнага народу на незалежнае дзяржаўнае існаваньне, што зьяўляецца гэтак урачыста загарантаваным на балонах Атлянтычнай Карты. У гэтым таксама хаваецца дзіўны й незразумелы парадокс сяньняшняе эпохі, што Захад, даючы вольнасьць ім самым паняволеным народам, адмаўляе права на гэтую вольнасьць сваім прыродным саюзьнікам — народам, паняволеным найзьлейшым ворагам Захаду — бальшавіцкай Расеяй.

**Алесь Крыга**

## Зьезд Беларускае Моладзі ў ЗША

Вялікая колькасьць беларусаў эміґрантаў, у рэзультаце перасяленьня ДП зь Нямеччыны, знайшлася ў ЗША. Неўзабаве пасьля перасяленьня, нашыя суродзічы пачалі арганізавацца ў вольнай краіне Вашынгтона. Паўсталі ўжо тут такія арганізацыі, як: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Беларускі



Інстытут Навук і Мастацтва, Беларускае Студэнцкае Таварыства, Беларускі Выдавецкі Фонд, а рад іншых арганізацыяў, як Здзіночаньне Беларускіх Вэтэранаў, Навуковае Таварыства Імя Францішка Скарыны, Саюз Журналістых і другія, якія былі заснаваныя яшчэ ў Эўропе, памысна прадаўжаюць сваю дзейнасьць у ЗША. Памысна разьвіваецца тут таксама Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, якая гуртуе вакол сябе што раз больш вернікаў ды й дапамагае ім наладжваць рэлігійнае й царкоўнае жыцьцё.

Беларуская моладзь у ЗША таксама хутка вычула патрэбу арганізаванасьці. Ужо ў 1950 г. паўстала тут некалькі маладняцкіх, мясцовых аднак, арганізацыяў. Групы гэтыя праводзілі даволі ажыўленую дзейнасьць, але ня былі пазвязаныя між сабой арганізацыйна. Узьнікла патрэба злучыць іх у вадну цэласьць — у арганізацыю беларускае моладзі з абсягам дзейнасьці на ўсе Задзіночаныя Штаты Амэрыкі.

Вось з гэтай мэтай, зь ініцыятывы Арганізацыі Беларускае Моладзі ў Кліўленд, быў скліканы Зьезд Моладзі, які й адбыўся ў Кліўленд 30 сьнежня 1951 г. У Зьезьдзе прынялі ўдзел прадстаўнікі беларускае моладзі з Кліўленд, Нью Ёрку й Дэтройту — разам 52 асобы. Абмеркаваўшы пытаньне арганізацыі, Зьезд пастанавіў заснаваць **Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў ЗША.** Быў разгледжаны й прыняты статут арганізацыі й абмеркаваныя ейныя заданьні ды плян працы на бягучы год. Выбраны быў таксама ўрад ЗБМ зь сялібай у Нью Ёрку. Сам-жа Зьезд адбыўся ў паважнай сяброўскай атмасфэры.

На сяньняшні дзень у склад ЗБМ уваходзяць ужо аддзелы ЗБМ у Нью Ёрку, Кліўленд і Дэтройт. Урад ЗБМ імкнецца засноўваць аддзелы ЗБМ у іншых мясцовасьцях, каб задзіночыць у арганізацыі як найбольшую колькасьць беларускай моладзі, пражываючай у ЗША, а з другога боку ўрад ЗБМ зробіць усе стараньні, каб новая беларуская маладняцкая арганізацыя буйна разьвівалася й прыносіла запраўдную карысьць для нашае нацыянальна-вызвольнае справы.

**М. Т.**

ЯКУБ КОЛАС

# НОВАЯ ЗЯМЛЯ

## ПАЭМА

XII

**СЭСЫЯ**

У інтарэсах асьвятленьня
Яшчэ ня зьнікшага зьяўленьня
Ня шкода-б сьвятам, вольным часам,
Схадзіць на сэсыю зь Міхасем.
Міхась пасьнедаў, прыадзеўся —
І на кірмаш схадзіць ён меўся, —
Ня то, каб там якія справы
Былі патрэбны і цікавы,
А проста так сабе ў нядзельку
Праведаць Зальмана ці Эльку.
Міхал — навошта ўжо таіцца? —
Любіў такі павесяліцца,
Зайсьці да Малкі ці Лайботы,
Каб збыць за чаркаю згрызоты.
Ці так ці не, ўва ўсякім разе
Другое мелася на ўвазе:
Міхал любіў каля бутэлькі
Пытаць тых-сіх наконт зямелькі,
Бо так на службе дапяклі,
Што гэта думка аб зямлі
Запала ў сэрца назаўсёды,
Як промень волі і свабоды.
На тую-ж сэсыю штотыдня
Хадзіў Міхал да пана-злыдня.
Звычайна з раніцы ў нядзельку,
Калі пакіне пан пасьцельку,
Аб'ежчыкі із стражнікамі
Сюды схадзіліся, зьяжджаліcь,
З гадзіну добрую сланяліcь
Або мянцілі языкамі,
То, часам, востра, то пагана,
Пакуль ня клікалі да пана.
Вось і цяпер, у дзянёк гэты,
Як мае быць ужо адзеты,
Сказаць, адзеты і фарсіста,
І гладка выбрыўшыся, чыста,
Міхал ужо разгладжваў вусы.
— Асьцерагайся-ж ты спакусы:
Прыйдзі хоць раз дадому ў часе! —
Зьвярнулась жонка да Міхася.
Ох, гэта нуднае прыслоўе,
Бадай яму ўжо безгалоўе!
І колькі раз ён чуе гэта!
Ну, й надаедная-ж кабета:
Вось так і выкіне на вока!...
Міхал абураны глыбока,
І гнеў мяняе яго вочы.
Ой, ды й язык-жа ты жаночы:
Ці ёсьць, ці не прычына тая —
Ўсё роўна меньціць і кусае.
— Ну, як табе ўжо не абрыдне
Казаць адно сто раз на тыдні?
Сказала сорак раз і — квіта! —
Міхал адказвае сярдзіта,
Глядзіць, паблісквае ачыма,
І злосна ўскідвае плячыма.
— Бо праўда вочы табе коле,
І ня мінеш ты, нябось, Сроля —
Ня людзкая твая натура,
Ня пахне дом свой і пячура:
Абы гарэлка на прымеце —
Ты ўсё гатоў забыць на сьвеце! —
Міхал стаіць зьнявагі поўны,
І погляд кідае бязмоўны.
О, колькі крыўды ў ім, абразы!...
Э! лепш змаўчаць ёй, лепш тры разы
І не адказываць нічога.
Ён толькі ў бок плюе з парога,
Ідзе — сам гнеў і сама бура,
Із лба на бровы зьбегла скура,
А губы шчыльна-шчыльна сьцяты,
Дзьвярмі ён грукнуў, вышаў з хаты,
І злосьць душы і сэрца пляму,
Выносіць з дому аж за браму;
І нейкі час ён па дарозе
Ідзе абураны, ў трывозе,
На жонку злосны, на самога.
Бо ў словах жонкі праўды многа.
Але-ж нашто калоць у вочы?...
Цьфу! дня табе няма і ночы,
І ні часіначкі спакою;
Чорт кажны вяжацца слатою,
А тут яна шэй-на-катрынку
Як завядзе, ды бяз упынку.
Міхал аб помсьце строіць пляны.
Вось ён нап'ецца, прыйдзе п'яны,
Каб аж язык не варушыўся,
Калі такім ліхім радзіўся;
Нахай крычыць сабе тады.
9) А не — ня ўзяць два дні яды
Наперакор сваёй жанчыне,
Пакуль яе злосьць не астыне?
Міхал і Клін ужо мінае.
Направа сьцежачка сьляпая
Вядзе балотцам на ачосы.
Міхал ідзе пакуль што босы
І на дарожку зварачае,
Ідзе сьвяржэнскімі маргамі
І гразь памешвае нагамі.
І покі ён мінуў лагчыну,
На лбе разгладзіліcь маршчыны
І ў сэрцы бура улеглася.
Другія думкі на Міхася
Цяпер найшлі нейк неўзаметкі,
Ды толькі іх маўклівы сьведкі —
Лясок, дарожка, елкі, хвоі,
Свае ў іх думкі і настроі.
Балотца пройдзена памалу.
Густым ляском па буравалу
Міхал выходзіць на гасьцінец.
Цяпер у думках пан-злачынец.
І не хацелася-б зь ім знацца,
Ні справы мець, ні спадзявацца,
Ні слухаць лаянкі-пагрозы;
Але ні злосьць твая, ні слёзы,
Ні моцна шчэмлены кулак
Ня зьменяць справы аніяк —
Цярпі! чаму? дакуль цярпеньне?
Калі канец яму, рушэньне?
Няўжо ўвесь век жыць з панскай ласкі
І перад ім чуць абавязкі?
І слугаваць яму, старацца,
І ў тры пагібелі згінацца?
Адказ адзін: няма, брат, ходу,
Хоць з мосту кідайся ты ў воду;
Няма зямлі свае і хаты,
І мусіш гнуцца, як пракляты,
Бо ты ні мяса і ні рыба.
Ідзе Міхал, прад ім сяліба,
Засьценак добра так знаёмы,
І хоць няважныя харомы
Тут гэта шляхта збудавала,
Але жыве і гора мала!
Хоць шляхціч цёмны, як саган,
Затое-ж сам сабе ён пан:
Паноў лясьнічых знаць ня знае,
Прад імі сьпіны ня згінае:
Пад бокам паша, агароды
І лес, і поле — ўсе выгоды.
Міхал зірнуў і пазайздросьціў:
Чаму й ня ён між ягамосьцяў?
Нядзелька, сьвята — людзі вольны,
Свая ахвота, свой дазвол,
На рынак едуць, хто у касьцёл,
Як гэты Людвік багамольны,
А хто пагульвае так дома;
А ты, вось, совайся, як бома,
Ды бойся ліха і падкусу —
Ня ступіш кроку бяз прымусу.
За горкай панская пасада,
Як у вяночку, каля саду
Ў глыбі прасторнага дзядзінца
Стаяла збоку ад гасьцінца.
Будынак, парк і агарожа —
Было ўсё слаўна і прыгожа;
Мастацка зробленая брама
Ласкала вока гэтак сама,
Але Міхалу не хацелась
Глядзець на гэта ўсё — прыелась,
І панскі дом з ласіным рогам
На Міхася глядзеў астрогам,
Бо тут, апроч тае зьнявагі,
Сказаць, ад кажнага брадзягі,
У стражнікоўскім сваім лёсе
Нічога ведаць ня прышлося.
А гэта сэсыя, спатканьне,
Падкусваньне і насьміханьне —
Як прыкра гэта ўсё і нудна,
І няпрыемна, і паскудна!
Міхал ступіў на двор кватэры
З душою, згрызенай бязь меры,
Але, спаткаўшы саслугачых,
Спакойных больш і менш гарачых,
Міхал мяняе выраз твару
І гоніць прэч задуму-хмару,
Ідзе, вітаецца, сьмяецца,
Бы смутку век ня знаў, здаецца,
Бо людзі схільны строіць кпіны
З тваіх нягод бяз дай прычыны.
Тут быў Скварчэўскі, Ліхтаровіч,
Амброжык, Суднік, Астахновіч,
«Памдзей», быў створан з «пана дзея».
Ня поп наш дзядзька, але ўмее
Зірнуць часамі «ў свае сьвятцы»,
Каб трапным словам адазвацца
І сэнс духоўнай карталюшкі
Паправіць ліпкаю мянушкай.
«Памдзей», аб'ежчык быў ня шкодны:
Там, чалавек ён старамодны
І не такі, як Ворцюх, зыркі,
І меней здольны на прыдзіркі
І на падкусы, і на ўданьне,
За што й вагі ён ня меў званьня.
Вось Арцюшок — о, гэта скула!
Ну, і шкадлівы-ж быў, хамула,

# Толькі собскімі сіламі

(Заканчэньне)

падсавецкіх народаў будзе пакінута ім самым. А таму вельмі вялікае, а магчыма й вырашальнае значэньне можа мець палітыка дакананых фактаў. Зможа наш народ праявіць максымум актыўнасьці, цьвёрдае волі й патрыятычнай ахвярнасьці, беларуская незалежная дзяржава станецца канкрэтным фактам, які будзе вызнаны й дэмакратычным Захадам навет у тым выпадку, калі-б незалежнасьць Беларусі не ляжала ў ягоных плянах. Ня зможа наш народ здабыцца на гэтыя якасьці, справа незалежнасьці Беларусі будзе пахаванай: Беларусь станецца тады ўзноў расейскай калёніяй пад аўтанамічным ці фэдэральным шыльдам, завешаным дзеля змыленьня апініі вольнага сьвету. І на такую канцэпцыю бясспрэчна тады пагодзіцца Захад, хоць-бы й меў ён зусім іншыя пляны.

**Мы асьмельваемся** закрануць гэтае пытаньне не па тое, каб абезнадзейваць нашае грамадзянства, але толькі таму, каб, прыгатаўляючыся да вялікіх заданьняў у будучыні, здаць сабе справу з усіх цяжкасьцяў іхнага ажыцьцяўленьня. Бо дрэнны той стратэг, які, вядучы армію ў бой, пераацэньвае собскія сілы й магчымасьці, не дацэньваючы сілаў ворага. І дрэнны той палітык, які, прадпрыймаючы тыя або іншыя палітычныя ходы, не бярэ пад увагу ўсіх тых цяжкасьцяў і супрацьдзеяньняў праціўніка, якія будуць стаяць на ягоным шляху. Звычайна намаганьні такіх стратэгаў і палітыкаў канчаюцца няўдачай, іхныя пляны правальваюцца.

Таму мы павінны сьмела глянуць праўдзе ў вочы й ужо сяньня ўсьведаміць сабе ўсе тыя цяжкасьці й небясьпеку, што бяз сумліву перад намі паўстануць у мамэнт будаваньня нашае дзяржаўнасьці. А ўсё гэта ў дастатковай ступені ўсьведаміўшы, хутчэй знойдзем выхад навет з найгоршага ў будучыні палажэньня й у залежнасьці ад гэтага будзем весьці сяньня нашую палітычную дзейнасьць і будаваць пляны нашае будучае стратэгіі.

Адным з аснаўных пунктаў гэтае стратэгіі будуць нашыя намаганьні ўзбудзіць у вырашальны мамэнт як найвялікшую нацыянальную актыўнасьць нашых масаў і іхную волю да собскага незалежнага жыцьця. У папярэднім нумары «Бацькаўшчыны» мы на гэтым месцы адзначалі, што гэтая справа ня будзе вельмі простай і лёгкай у сувязі з тым, што амаль уся нацыянальна творчая беларуская інтэлігенцыя й нацыянальна актыўны элемэнт сялянскі зьяўляюцца бальшавікамі зьнішчаныя, а намаганьні расейскай інтэлігенцыі, насаджанай на Беларусі бальшавікамі ў мэтах русыфікацыі, ўратаваць «адзіную й недзялімую», будуць вялікія. Здаючы з усяго гэтага справу, мы ўжо сяньня павінны арганізацыйна й палітычна прыгатаўляцца да таго, каб у вадпаведны мамэнт зрабіць усё ад нас залежнае дзеля зактывізаваньня народных масаў у змаганьні за свой будучы лёс.

Прадстаўленыя намі цяжкасьці ў будучых намаганьнях адбудаваць собскую незалежную дзяржаву спаткаюць на сваім вызвольным шляху й усе іншыя паняволеныя народы. У такім самым палажэньні, як мы, апынуцца й украінцы, казакі, туркестанцы й народы Каўказу. Усіх іх будзе лучыць аднолькавае палажэньне, аднолькавыя мэты й аднолькавыя цяжкасьці, што будуць напатыкацца на шляху іхнага ажыцьцяўленьня. Таму вельмі важнай перадумовай пасьпяховасьці нацыянальнага дзеяньня паасобных народаў будзе супольнасьць і скаардынаванасьць усіх іхных высілкаў.

Аднэй з многіх прычынаў, дзеля якіх высілкі нерасейскіх народаў у 1918—20 г. г. замацаваць створаныя імі дзяржавы й проціўставіцца націску расейска-бальшавіцкага імпэрыялізму не ўкаранаваліся пасьпехам было тое, што кажны з гэтых народаў дзеіў на собскую руку, што ня было ўзаемнай павязанасьці й каардынацыі іхнай нацыянальна-вызвольнай акцыі. Сяньня неабходна імкнуцца да таго, каб скарыстаць із сумнай лекцыі мінулага й зробленых тады памылак другі раз не паўтарыць.

Сяньньшняя супольная палітычная дзейнасьць эміграцыйных прадстаўніцтваў паняволеных народаў і іхны супольны фронт змаганьня з расейскім бальшавізмам зьяўляюцца, — трэба сказаць адкрыта — не дастаткова яшчэ ўзгодненымі й скаардынаванымі. Супольная абарона перад наступам расейскага імпэрыялізму розных колераў нярэдка аслабляецца й паралізуецца ўзаемнымі палітычнымі супярэчнасьцямі, эгаізмам нацыяў сільнейшых і дробнымі імпэрыялізмамі некаторых партнэраў гэтага фронту. Таму перад палітычнымі прадстаўніцтвамі гэтых народаў ужо даўно насьпела патрэба грунтоўнае перабудовы міжнацыянальных дачуненьняў у духу як найцясьнейшага й як найбольш шчырага супрацоўніцтва ў сьведамасьці, што чым цясьнейшае будзе гэтае скаардынаваньне, узгадненьне й узаемная дапамога ў нашай супольнай акцыі, тым больш пэўныя будуць ейныя вынікі. Усе тыя разьбежнасьці, што розьняць між сабою некаторыя нашыя народы, павінны быць катэгарычна сяньня адкінутыя. Для іхнага палагоджаньня будзе яшчэ час. А сяньня ў васнову нашага супрацоўніцтва й міжнацыянальнай салідарнасьці павінны быць паложаны толькі тыя мамэнты, што нас лучаць у вадну вялікую шматнацыянальную сям'ю.

Кажны добры стратэг у ваенным ці палітычным сэнсе ў кажнай заплянаванай акцыі лічыцца з сытуацыяй найгоршай, хоць-бы ўсе дадзеныя былі за тым, што яна будзе значна лягчэйшай або навет зусім лёгкай. Тады ён ня рызыкуе сустрэцца з прыкрымі неспадзеўкамі пры сытуацыі ўзапраўды цяжкой і лёгка дасягвае сваю мэту пры сытуацыі лягчэйшай. Таму й мы з поўнай сьвядомасьцю павінны ўлічваць найгоршую магчымасьць — што нашая сытуацыя ў канчальнай фазе вызвольнага змаганьня будзе ўзапраўды цяжкая й скамплікаваная. Але яна ня толькі ня будзе безнадзейнай, але навет загарантуе нашую перамогу ў тым выпадку, калі супольнымі сіламі ўсіх паняволеных народаў будзе поўнасьцю выкарыстаная ўся нашая патэнцыяльная перавага, як у сэнсе палітычным, ідэйным, праўным, гэтак і ў сэнсе мілітарным, калі-б, прыкладам, зайшла патрэба абараняць нашыя справядлівыя нацыянальныя інтарэсы навет сілаю аружжа.

**Язэп Каранеўскі**

# Нічога новага у „Новым Рускім Слове"

(Ад собскага карэспандэнта зь Нью Ерку)

У мінулым нашым аглядзе за студзень г. г. выказваньняў расейскіх публіцыстых у «Новым Рускім Слове» на нацыянальную справу, сярод агульнага цёмнага фону гэтых выказваньняў, удалося знайсьці й выявіць некалькі й сьветлых плямаў, г. зн. цьвярозых, пазытыўных паглядаў («Бацькаўшчына» № 5/84 ад 3. 2. 1952 г.).

Ад таго часу праўшоў месяц, на працягу якога зноў зьявілася шэраг розных артыкулаў, што так ці інакш закраналі гэтую тэму, але ў якіх, пры ўсім нашым намаганьні, не ўдалося ня толькі знайсьці, але навет адчуць якогась поступу, хоць здавалася-б, што час робіць сваё і жыцьцё, а зь ім і людзкая думка, рухаюцца або павінны пасоўвацца наперад. Ня тое ў «Новым Рускім Слове», там — нічога новага, а наадварот — месяц люты, хіба таму што «люты», паказаў якраз страшэнную закасьцянеласьць, замарожанасьць гэтае думкі ў дачыненьні да нацыянальнай праблемы, паказаў навет крок назад.

Адзіным, бадай, праблескам сьвятлейшага разуменьня гэтае праблемы быў вялікі артыкул дзеяча расейскай сацыял-дэмакрацыі Р. Абрамовіча пад назовам «Патрыёты і лжэпатрыёты», што друкаваўся ў некалькіх нумарох «НРС», але, між іншым, гэта было яшчэ ў студзені, у вапошніх яго днёх.

Р. Абрамовіч уважае за зусім натуральнае зьявішча тое, што такая праблема, як нацыянальная, выклікае разнагалосьсе навет у колах дэмакратычнай часткі расейскай эміграцыі, бо вялізарная бальшыня расейцаў, на ягоную думку, з гэтай праблемай амаль што не знаёмая, апрача гэтага — у ўяўленьні шмат каго зь іх, яна ёсьць зьвязаная зь існаваньнем Расеі, як дзяржавы.

**«СССР або Расея,** — кажа ён, — якбы гэтую дзяржаву не называць, ёсьць цяпер у Эўропе **адзінай шматнацыянальнай імпэрыяй.** І ў гэтай імпэрыі **няма ніякіх нацыяналістычных або сэпаратыстычных „рухаў".** У ёй, як ведама, **навет ня бывае работніцкіх забастовак»** (падкрэсьленьні нашыя — А. С.).

На гэтую вось уяўленую і высьмейваную Р. Абрамовічам «адсутнасьць нацыянальнага пытаньня» ў Расеі ці СССР вельмі-ж ахвотна любяць спасылацца і ўвесь час спасылаюцца адзінанедзялімцы, паклікаючыся яшчэ пры гэтым, як на цьвярдыню, на г. зв. сьветчаньні «навейшых» эмігрантаў «адтуль».

Р. Абрамовіч не падхоплівае гэтых «сьветчаньняў», як чагось, што-б падмацоўвала ягоныя хаценьні «адзінства» Расеі (што й Абрамовіч хоча бачыць будучую Расею «адзінай», будзе аб гэтым далей), але: «...ня сумляваючыся ў шчырасьці гэтых сьветак, мы гэтым сьветчаньням прыдаём адноснае значэньне», бо: «гіганцкі ціск усемагутнага апарату дыктатуры прыглушае ўсе праявы незадаваленьня, „замаражвае" ўсе грамадзкія й нацыянальныя антаганізмы. Але ў часіну, калі пакрыўка катла будзе зьнятая, пара можа вырвацца навонкі зь нечаканай сілай».

У далейшых сваіх разважаньнях Р. Абрамовіч сьцьвярджае, што нацыянальнае адраджэньне ды імкненьне паасобных народаў да собскай дзяржаўнасьці, якое пачалося ў палове 19 стагодзьдзя ды адбываецца на нашых вачох ў Эўропе й Азыі, не абмінула й Расеі. СССР ёсьць адзінай шматнацыянальнай імпэрыяй, што яшчэ захавалася ў Эўропе, бо іншыя, падобныя, ёй, распаліся ўжо даўно.

Прычыну захаваньня Расеі Абрамовіч бачыць у «слабасьці цэнтрабежных сіла да 1918 г.», а пазьней: «— Магутнасьць запанаваўшай у краі таталітарнай дыктатуры, што зьвязала ўсе часткі стальным шкілетам шматнацыянальнай ВКП(б)», дапамагла гэтаму.

Слабасьць «цэнтрабежных тэндэнцыяў» у пару 1918 г., паводля Р. Абрамовіча, была вынікам у значнай меры той цеснай маральна-палітычнай сувязі паміж рэвалюцыйнымі інтэлігенцыямі розных народаў у працэсе супольнага вызвольнага змаганьня, бо ўсе нацыянальныя рэвалюцыйныя ўгрупаваньні прымыкалі або да С.-Д. (Сацыял-Дэмакратаў), або да С.-Р. (Сацыял-Рэвалюцыянэраў) і далей за тэрытарыяльную аўтаномію ня йшлі, навет сярод польскіх сацыялістых была значная група супроць ідэі незалежнасьці Польшчы.

Перамога бальшавізму ў Расеі вытварыла новыя суадносіны ў двух супроцьлеглых кірунках: на пачатку — заахвочваньне да культурна-нацыянальнага расьвіцьця ўсялякіх народаў і плямёнаў, а з другога боку — паралізаваньне цэнтрабежных сілаў праз нутраную жалезную вязь Усесаюзнай Кампартыі.

Пры далейшай сваё аналізе Р. Абрамовіч прыходзіць да слушнага выснаву, што ў выніку гэтае — «ня бывалае ў сьвеце нацыянальнае дэмакрацыі» вырастала «надбудова» свайго собскага нацыянальнага «я» і «натуральнае імкненьне пашырыць сфэру й размах сваей самабытнасьці й свайго самакіраўніцтва». Аднак імкненьні гэтыя былі крывава здушаныя. «Адна за другой групы нацыянальнай інтэлігенцыі пачалі зьнікаць у падвалах ГПУ — НКВД». Дыктатура, кажа Абрамовіч, парвала свае былыя сувязі із сялянствам і «ўзьняла супраць сябе шэраг нацыянальнасьцяў із пераважаючым сялянскім насельніцтвам, якое, зьненавідзіўшы дыктатуру Масквы, злучаецца із расчараванай ў мроях аб сваім нацыянальным „рэнэсансе" інтэлігенцыяй».

На паверхні савецкага грамадзтва працэсы гэтыя ня выяўляюцца, разважае Р. Абрамовіч, аднак там **на толькі «ня відаць» нацыянальнага змаганьня,** але ў гэтым «найдэмакратычнейшым у сьвеце» рэжыме няма й забастовак. Дзеля гэтага **лёгкадумна будзе рабіць выснаў,** што ў **«краіне саветаў няма рабочага пратэсту»,** або што: **цэнтрабежныя імкненьні сярод нацыянальных мяншыняў — міт, прыдуманы эмігрантамі»** (падкрэсьленьні нашыя — А. С.).

Увесь працэс развіцьця й росту сучаснага нацыяналізму ў Эўропе й Азыі адбываецца на аснове росту народнай асьветы, літаратуры, прэсы радыё й палітычнай дэмакрацыі, — сьцьвярджае Абрамовіч, дык якія-ж падставы да думаньня, што ён затрымаўся ў СССР? — пытае ён.

Гэтых некалькі прыкладаў із разважаньняў Р. Абрамовіча сьветчаць аб саліднасьці самага аўтара й ягонага цьвярозага падыходу да справы. Гэта

(Заканчэньне на 4 балоне)

Хоць у панкі пралез адразу:
Цаніў Ракоўскі ў ім заразу;
Вось так і віўся каля пана...
Цьфу ты, мардасіна пагана!
Якога чыну даслужыўся —
Обэр-аб'ежчыкам лічыўся,
Брахун ня горшы ад сабакі.
Ён меў сабачыя адзнакі —
Брахаў налева і направа;
Была й сабачча яго слава,
І калі пахла дзе даносам,
Тады, крутнуўшы толькі носам,
Казалі згодна, ў вадно слова:
«Ну, гэта штучка Арцюшкова!»
А вось і ён. Ідзе фарсіста,
Глядзіць звысока, ганарыста,
Але зіркнуць людзям у вочы
Ён штось ня надто ўжо ахвочы,
А параўняўшыся з «Памдзеем»,
Ён толькі лыпнуў ліхадзеем
У бок аб'ежчыка старога,
Але ня вымавіў нічога.
«Памдзей» штурхець пад бок Міхала:
«Счуў, бэстыя, чыё зьеў сала»,
На Арцюшка «Памдзей» ківае.
А сам нявесела ўздыхае
І выраз твару мае горкі.
— Чакаць, пам-дзееньку, праборкі! —
Прамовіў ён у засмучэньні.
Брахнуў аб нейкім папушчэньні,
Пабіць-бы галу морды-пыцкі! —
Тут быў таксама, і Абрыцкі,
Стары аб'ежчык і служака,
Курэц і добры выпівака.
Любіў і ён «Тэш проша пана»...
Куснуць падчас неспадзявана.
Звычайна ён спаўняў тры ролі:
Або сьмяшыў усіх да болі,
Калі ў сьмяхотным захапленьні
Апісваў розныя здарэньні,
Ці пераймаў таго, другога,
Або маўчаў зацята-срога
Ды пыхкаў люльку задуменна,
Або гарэлку піў сумленна,
Ды не валяўся пад платамі,
Хоць скробаў добра капытамі.
У часе гэтых сэсый-збораў
Было ня мала абгавораў
І розных штучак, жартаў, кпінак.
Ліхіх і добрых успамінак;
То, часам, сьмехам, а то ў злосьці
Перамывалі паном косьці,
Рашалі розныя пытаньні
Наконт сяброўскага спатканьня,
І хто каму дзе стаўся варты,
І закладаліся на карты,
Зусім забыўшыся аб лесе.
Але ўся важнасьць гэтых сэсый
І іх грунтоўныя асновы
Складалісь з панскае размовы,
Калі каго сам пан лясьнічы
Да канцылярыі закліча.
Тады ўсё моўкла — ні гу-гу!
Звычайна ў першую чаргу
Для рапартоў і справаздачы,
Угнуўшы хвост той па сабачы,
Ішлі аб'ежчыкі асобна,
А ўсім паведаміць падробна:
Якія дзе былі здарэньні,
Ці непарадкі, папушчэньні:
Як лясьнікі, яго падпаскі,
Свае спаўнялі абавязкі,
Дзе і ў каго былі парубкі,
Каб мець прычыну дзеля ўзлупкі.
Калі-ж у гэтай справаздачы
Было ўсё добра без астачы
І тыдзень скончваўся шчасьліва,
Тады лясьнічы глядзеў скрыва:
Ты маеш, значыцца, хаўрусы
І ўваднэў чарцы мочыш вусы.
Тут гэты лад быў так збудован,
Што на даносах быў заснован,
І мелась тут навідавоку
Кусаць адзін другога збоку.
На гэты раз неспадзявана
«Памдзея» клікнулі да пана.
«Памдзей» падскочыў, здрыгануўся
І навакола азірнуўся.
— Ну, будзе лазьня, пане-дзею!
Але за што? не разумею! —
Прамовіў ён, уськінуў плечы
І ў бег пускаецца старэчы.
Бадай ён быў курам прысьніўся:
Убег, нізютка пакланіўся.
Стаіць пакорна і рахмана,
На крыж гатовы йсьці за пана,
Старыя костачкі зламаць
І верай-праўдаю служыць...
І так зьніжацца! цьфу, агіда!
Ня мець, ні вобразу, ні віду,
Ні, навет, цені чалавека;
Стаяць бы куль, бы лялька нейка,
Глядзець на пана, як той Лыска...
Эх, так упасьці і так нізка!
Затое-ж пан той! паглядзеце:
Хто зь ім зраўняецца на сьвеце?
Які ён важны, панаваты,
Выдатны, «мондры», зухаваты!
Які ён гога! які дока!
Як ён сябе нясе высока!
Пабачце гэту яго міну:
Ён — цар, ён — Бог напалавіну,
Злучэньне блеску, зьзяньня, цені —
Сагні прад ім свае калені!...
І прад такім, вось галамоўзай
Ня сьмей стаць роўна ты, а поўзай!
«Памдзей» стаіць, пан не зважае,
Як-бы то слуп ці рэч якая,
Сядзіць надзьмуты, зьвераваты
І разглядае асыгнаты.
— Ну, ягамосьцю-аматору,
Ці павяраў сваю камору? —
Зрабіўшы гэта запытаньне,
«Рачок» зірнуў ліхім Барбосам
І ўсё пакручвае тым носам,
Мінуту ловіць насяданьня.
Што адказаць трапней на гэта?
Якая хітрая тут мэта?
У чым яго, «Памдзея», ловяць?
З чаго пачнецца тая споведзь?
Якія зразяць яго стрэлы?
«Ну, ну, „памдзееньку", будзь сьмелы!
Бог дасьць, сухі ўспаўзеш на бераг».
Мамэнт, а думак цэлы шэраг.
— Так, павяраў панок, вядома:
Хіба мне служба незнаёма?
— А шмат разоў быў на каморы?
— Пяць раз «памдзею», з пазаўчора.
— Дзе Астахновіч? Марцін — Слухэм!
Марцін на двор імчыцца духам
І зараз зноў сюды ідзе
І Астахновіча вядзе;
Паўзе з павагай Астахновіч,
Лясьнік каморны з Давідовіч,
Маруда страшны, глух на вуха...
Ну, што-ж? ня даў Бог яму руху,
Прышоў, сюд-тут ён глянуў скоса
І затрубіў разы два носам,
Бо трэба ведаць, хто і дзе ты.
— Быў у цябе вось дурань гэты?
Адказвай праўду мне, Зыдоры,
Як ён даўно быў на каморы?
Аб'езчык страчвае надзею!
— Гэ, вось ты ліха, пане-дзею!
Цяпер папаўся, дабрадзею:
Вось так і цапне, так і цапне,
Калі ні ў пяць, ні ў дзесяць ляпне?
Каб ня глухі, шапнуць-бы можна.
І толькі зрэдка забармоча:
— Даруй, панок, нех пан даруе! —
А пан нічога не шануе
І, расчыніўшы губы-трубы,
Як няпрытомны, злосны, грубы,
Шпурляе кнігі, рве паперы
І брудна лаецца бязь меры
Эх, галава твая парожна!
Ну, як тут быць? як падказаць,
Каб і Зыдоры сказаў «пяць»?
Ён раптам момант улучае
Пяць пальцаў моўчкі падымае.
Зыдоры згледзіў знак маўклівы.
— Пяць дзён, як быў там пан мыслівы, —
Гукнуў Зыдоры вельмі рады,
Што гэтак вышла без парады.
«Бадай-жа ты прапаў, мой мілы!
Ня знаць-бы век цябе, дурылы!
Ўсё сапсаваў, бадай ты зьнік:
Пяць дзён! пяць скул на твой язык!
Лайдак! як скокне да «Памдзея»
Лясьнічы-зьмей, ну аж шалее,
Жыўцом грызе сваю ахвяру.
— Пся крэў твая, галгане, лгару!
Ты гэтак служыш, о, лайдаку!
Да д'ябла выганю, сабаку,
Каб ня было тут твайго смроду!
Я выведу такую моду!
Павінен быць на сваім месьце,
А князеў хлеб дарэмна есьці
Ня будзеш, псіна ты старая!
З апошніх слоў «Памдзея» лае.
І доўга льлецца гэта песьня,
Як толькі з крыку ён ня трэсьне!
«Памдзей», прыбіты і прыгнуты,
Цярпліва зносіць крыж пакуты,
Стаіць, у дол спусьціўшы вочы,
Ды насядае на «Памдзея»
І ўсё ня мякне, не дабрэе,
А мае дрэнныя манеры.
«Памдзей» задком, задком у дзьверы
Паўзе-адходзіць ад навалы,
І раптам робіць «махні-драла»,
Бяжыць на двор, увесь чырвоны.
— О, ты халера! о, шалёны!
Ото-ж наскочыў, пане-дзею!
Папаўся ў лапы кату-зьмею! —
Гаворыць ён ды азірнецца:
Яшчэ пагонь яму здаецца.
— А ты, Зыдоры, пане-дзею,
Ты — куст альховы! о зладзею!
«Пяць раз» паказваю, тупіца!
А ён: «пяць дзён!» — цьфу, цьфу, дурніца! —

(Далей будзе)

# Нічога новага ў «Новым Рускім Слове»

(Заканчэньне)

нічога, што й Р. Абрамовіч у выніку ўсіх сваіх разважаньняў прыходзіць да высновы, што: «...із усяго вышэй выложанага ніяк ня вынікае, што расейская дэмакрацыя ня мае права мець сваей собскай думкі аб тым, якая форма дзяржаўнага жыцьця зьяўляецца найбольш мэтазгоднай з гледзішча **агульных інтарэсаў народаў Расеі** (падкрэсьленьне цытаванага аўтара). **Такой формай** з нашага гледзішча **зьяўляецца тая ці іншая форма фэдэрацыі, а ў пэўных выпадках і канфэдэрацыя»** (падкрэсьленьне не нашае — А. С.) — тут і выяўляецца хаценьне аўтара захаваць «адзінства Расеі» і далей. «Мы толькі не павінны **накідаць** нашага пагляду другім народам Расеі **сілай»,** а перад гэтым, крыху раней, ён навет прызнае, што: «я ўважаю, што чэснае прызнаньне права навет на аддзяленьне не павінна нас пужаць, калі воля дадзенага народу выяўлена дэмакратычным шляхам ягонымі народнымі масамі, а не самазванцамі і авантурыстымі, выступаючымі быццам-бы ад імя народу... гэтае волевыяўленьне павінна быць праведзенае ў вызваленай Расеі лепш за ўсё і правідловей за ўсё шляхам плебісцыту пад наглядам ЗН».

Каб бальшыня прадстаўнікоў расейскай палітычнай эміграцыі здабылася на хоць падобныя разважаньні, ня гледзячы на гэты й тут «плебісцытны» канёк, ужо даволі высьветлены ў нашай прэсе, то яшчэ можна быо-б зь імі гаварыць і дыскутаваць паважна.

Хочацца толькі й паважанаму сп. Р. Абрамовічу прыпомніць, што й **мы** таксама, нацыяналістыя, у прыватнасьці **беларусы, маем права на собскае меркаваньне аб будучым дзяржаўным ладзе й сувязях нашага народу,** ды не забыліся яшчэ й таго, калі расейскія «авантурыстыя», выступаючы быццам-бы «ад імя свайго народу», сілай захапілі наш край, ды бязь ніякага «плебісцыту» далучылі яго да Расеі ў канцы XVIII ст., а ў нашыя часы, зноў-жа бязь ніякіх «плебісцытаў» і «масаванародных волевыяўленьняў», разагналі выбраны нашым народам Усебеларускі Кангрэс, задушылі агнём і мячом маладую Народную Рэспубліку, а ў 1920 г. ейнае жывое цела разарвалі на дзьве часткі.

Усе тыя запраўдныя расейскія дэмакраты, у тым ліку й сп. Р. Абрамовіч, не павінны баяцца таго, што гэтыя «сэпаратыстыя», атрымаўшы сваю дзяржаўнасьць, будуць такімі засьляпенцамі, што, із шкодай дзеля сябе, не захочаць мець ні зь кім, у тым ліку й з новай Расеяй, добрасуседзкіх, прыязных дачыненьняў. Але дзеля таго, каб гэтая прыязьнь магла паўстаць, патрэбныя ня словы, а сама практычная дзейнасьць, як цяпер на эміграцыі, гэтак і пазьней. Мы таксама ня можам і ня маем права сяньня вырашаць, зь кім із сваіх суседзяў у першую чаргу нашыя народы пажадаюць навязаць цясьнейшую сувязь, а можа навет і фэдэрацыйную — гэта вырашыць сваё народнае прадстаўніцтва. Мы толькі можам быць упэўненымі, што гэткім суседам-народам будзе той, які першы, як роўны партнэр, давадзе сваёй дзейнасьцю, што ён запраўды шчыра й дзеля аульнага дабра жадае такога зьбліжэньня. Калі гэта будзе народ расейскі, ці іншы, або ўсе іншыя — наш народ толькі горача прывітае падобнае імкненьне й ня менш шчыра яго прыйме.

На выказваньнях-жа іншых аўтараў з «НРС» ўжо ў лютым м-цы мы ня будзем доўга затрымоўвацца з тае простае прычыны, што няма над чым затрымоўвацца наагул, бо ў васнаўным гэта ўсё ведамыя ўжо ўсім даволі нудныя й абрыдлыя перапевы старых матываў аб «адзінанедзялімстве», «мане аб турме народаў», «адсутнасьці сэпаратыстычных імкненьняў сярод народных масаў у краі», кракадзілавых сьлёзах аб «бездапаможнасьці й слабасьці» новых дзяржаваў, калі-б яны, ня дай Божа, «адарваліся» ад сваей «мацеры Расеі» і пад.

Варта толькі крыху затрымацца на 2-х аўтарах, а пайменна А. Сяргеяве й П. Уранаве, але не таму, што яны падалі пэўныя канкрэтныя ці салідныя думкі, а якраз наадварот.

Вельмі дзіўным выдаўся артыкул А. Сяргеява («НРС» ад 6-га лютага) «Саветы й нацыянальнае пытаньне», у якім аўтар узяў на сябе няўдзячную ролю адваката-абароньніка бальшавікоў. Ужо на самым пачатку ён заяўляе, што: «Сярод шматлікіх мітаў аб Расеі, якія твораць чужаземцы, а таксама, некаторыя эмігранты, даволі моцнае месца займае міт аб тым, што палітыка бальшавікоў у нацыянальным пытаньні зьяўляецца працягам царскай вялікадзяржаўнай палітыкі, толькі ў значна больш паскудным выданьні». Тут-жа зараз А. Сяргеяў дадае, што лёгкадумна рабіць выснаў з гэтага, што тут ёсьць нейкая частка віны расейскага народу, як народу «пераважаючага», бо «расейскі народ і савецкая ўлада не адное й тое самае, расейскі народ церпіць ад савецкай улады ня менш, чым іншыя народы».

Мы згодны, што ўтожсамліваць бальшавіцкую ўладу з расейскім народам нельга, адносна «аднолькавасьці» цярпеньняў яго зь іншымі паняволенымі народамі справа выглядае крыху інакш, але «дапусьцім», як кажуць, што й гэта так, то чаму-ж А. Сяргеяў бароніць гэтую ўладу, калі ён з нагоды скаргі 105 кангрэсмэнаў у ЗН заяўляе: «...яны (кангрэсмэны) цьвердзяць, **быццам крамлёўская дыктатура сумысьля вынішчыла й вынішчае** прыбалтаў, украінцаў, каўказцаў, туркестанцаў і г. д.» (падкрэсьленьне нашае — А. С.). Тут Сяргеяў ставіць пытаньне: ці запраўды можна абвінаваціць бальшавіцкі ўрад у перасьледваньні «нацыянальных мяншыняў», а калі гэта так, то дзе прычыны гэтага?

І вось тут А. Сяргеяў із скуры вылазіць, каб знайсьці гэтыя прычыны й давесьці, што ўсе мерапрыемствы бальшавізму выходзяць із адзінай мэты — «заваяваньня сьвету», а таму ўсё, што ён робіць, абумоўлена «мэтазгоднасьцю». Гэткая «мэтазгоднасьць», каб мець за сабой усе масы, выклікала, паводля аўтара, «сьвірэпую» «ўкраінізацыю» й «беларусызацыю» ў пару НЭП-у, цярпелі ад масавых высылак беларусы й украінцы ды прыбалты таму, што яны жылі ў прыгранічных раёнах, а ў патрэбах-жа гэтай залатой «мэтазгоднасьці» прыгранічную паласу трэба было «ачышчаць» ад «ненадзейных».

І цяпер, кажа аўтар, калі астрыня гэтых «беларусызацыяў» прамінула, то ўсёроўна нацыянальная мова, як і раней, астаецца дзяржаўнай мовай ува ўсіх саюзных і аўтаномных рэспубліках, а **школы працуюць «на местном языке»,** а самае галоўнае — «каранныя жыхары рэспублікаў падаўнейшаму займаюць больш упрывілеяванае палажэньне, чымсьці расейцы. **Іх ахвятней высоўваюць на адказныя й менш адказныя становішчы» (!)** (Падкрэсьленьне нашае — А. С.).

Адным словам — «Жыць стала лепей, жыць стала весялей», — спадару А. Сяргеяў, хіба-ж так?

Ўзапраўды ўсё йдзе гладка. Ёсьць школы з нацыянальнымі шыльдамі, дзе навучаюць «на местном языке», а ня ў роднай мове, бо, прыкладам, беларускі правапіс, граматыку й вялізарны запас слоўніцтва ўжо даўно зьмянілі й «наблізілі» да «великого языка», ды й у гэтай мове толькі навучаюць дзе-ня-дзе ў вёсках, бо ў гарадох пераважная бальшыня ўсіх установаў яшчэ да г. зв. «айчыннай вайны» працавала ў «единой» мове, а адказныя становішчы ў тэй-жа Беларусі займаюць толькі «карэнныя» жыхары, як Кісялёвы, Патолічавы, Ураlавы, Машэравы й ім падобныя, а што масава гоняць у Сібір на зьнішчэньне, дык што-ж — гэта «мэтазгоднасьць», «ненадзейныя», бачыце! Мураўёў у свой час таксама ачышчаў наш край ад «ненадзейных», але ён дзіцё ў параўнаньні з тым, што дзеіцца сяньня.

Ці ведае, або, лепш кажучы, чаму ня хоча ведаць А. Сяргеяў таго факту, што **ніколі,** навет у пару г. зв. нэпаўскай беларусызацыі, на такім становішчы, ад якога залежыла ўсё, як **першы сакратар ЦК КПБ(б), ня быў і ня мог быць беларус,** хоць-бы ён быў большы камуністы за самога «бацьку»?

А ўрэшце дзеля чаго А. Сяргеяў пісаў свой няўдалы артыкул, каб апраўдаць бальшавізм? — нашто? Ці мо' каб давесьці гэтым настырлівым «сэпаратыстым», што «нацмяншыням» і цяпер жывецца ў СССР добра, лепш як за цара, а ўжо ў будучай сяргееўскай «новай» Расеі ім будзе жыцца яшчэ лепш?

Калі гэтае «лепш» па Сяргеяву мае выглядаць так, як бальшавіцкае «лепш» за царскае, — тады: дзякуй, дабрадзею, за ласку! Будуйце гэтае «лепш» дзеля сябе й сваіх патомкаў, а нас пакіньце пры нашым горшым, але собскім, без «карэнных» Кісялёвых, як галойнапаганятых.

П. Уранаў у сваім «Права й мэтазгоднасьць» (узноў «мэтазгоднасьць»!) у «НРС» за 19. 2. 1952, як кажуць, «шутить изволил» над г. зв. «сэпаратыстычнымі» дзеячамі, што быццам-бы хочуць «жыць на шырокую нагу», мець свае ўрады, арміі, друкаваць грошы й пад., бо, ці народы хочуць у запраўднасьці аддзяліцца ад Расеі, Уранаў яшчэ ня ведае. Ён толькі ведае, што «господа» з АБН і іхныя «чужаземныя патроны» робяць «паклёп на Расею», ды абвяшчаюць кліч: «Рві Расею на кавалкі, аддзяляйся, каму ня лень!» Яму навет здаецца (добра, што яшчэ толькі здаецца), што ўжо настаў час, калі расейцы павінны шукаць не дамоўленасьці з «разбэсьціўшыміся паклоньнікамі-сэпаратыстымі (цудоўная тэрміналёгія, зусім у родным «по крови», толькі зь кім, тоне),**але** адчынена **глядзець на іх, як на ворагаў нашай агульнай радзімы — Расеі»** (падкрэсьленьне нашае — А. С.).

А каб яшчэ Уранаў дачакаўся ўлады ў «новай агульнай радзіме», ён-бы ня тое паказаў «сэпаратыстым»! Ён-бы й «плебісцыт» тады правёў, што «камар носу на падточыць», бо, апрача ўсіх іншых якасьцяў, ён яшчэ й «юрысты» й «дэмакрат».

Ён прапануе, што калі ў «новай» Расеі якісьці нерасейскі народ высуне прэтэнсыі на аддзяленьне, то іх трэба «добрасумленна» разгледзіць і пры «наяўнасьці права на аддзяленьне ў гэтага народу — задаволіць». Дык чаго-ж яшчэ хацець? Уранаў-жа «добрасумленны» дзядзька, і прапануе аж чатыры магчымасьці гэтага «права» на аддзяленьне! Зь іх найбольш нас можа датычыць чацьвёртая магчымасьць: «ускраінны народ Расеі, што пасьля аддзяленьня не апынецца ўнутры расейскай дзяржавы», але гэтая 4-ая магчымасьць можа быць стрымана 2-ой, якая кажа: **«права на аддзяленьне мае народ, што ёсьць чужы расейскаму народу па крыві, веры, мове й быту»** (падкрэсьленьні нашыя — А. С.).

«Прававедам» тыпу Ўранава ня цяжка будзе давесьці, што беларусы й украінцы «кроўныя браты» паводля ўсіх гэтых адзнакаў, а тады — «сядзі й ня рыпайся» і «ніякіх табе куранят», як вельмі ўдала сфармуляваў пазыцыю ў гэтым пытаньні рэдакатра «НРС» М. Вайнбаўма цытаваны намі раней Р. Абрамовіч.

Мала гэтага, Уранаў навет ставіць ультыматум, што «расейцы толькі тады могуць бязумоўна пагадзіцца на агульнае прызнаньне права на аддзяленьне кажнага нерасейскага народу, калі ўсе дзяржавы сьвету пойдуць на гэты крок».

У сваей ненавісьці да «сэпаратыстых» Уранаў тут «даў маху», бо ўжо запраўды дэмакратычныя краіны даўно пайшлі па гэтым шляху — Вялікабрытанія, ЗША й інш.,але Уранаў хлопец вёрткі, ён і на гэта знойдзе адпаведнае «права»!

У заключэньне нашага агляду трэба сказаць, што ўсё яшчэ сярод расейскай палітычнай эміграцыі пераважаюць пагляды тыпу П. Уранава, што ня прыносяць карысьці агульнай справе й што ніяк ня спрычыняюцца да паразумленьня паміж народамі, якія стогнуць у вагульнай бальшавіцкай турме — СССР.

Гэткі сумны выснаў насоўваецца, чытаючы «НРС» за мінулы месяц.

**Нью Ерк, у лютым 1952 г.**

**Андрэй Сьвіслацкі**

# Прыезд Прэзыдэнта БНР у Чыкаго

9 лютага сёлета наведаў беларускае асяродзьдзе ў Чыкаго Прэзыдэнт Беларускай Народнай Рэспублікі спадар інж. Мікола Абрамчык. Дастойны госьць прыбыў сюды самалётам з суседняга гораду Пэорыя, дзе меў некалькі спатканьняў з тамашнімі выдатнейшымі амэрыканскімі дзеячамі й дзе мясцовая амэрыканская прэса прысьвяціла шмат месца яго асобе й нашаму вызвольнаму руху. У Чыкаго на лётнішчы сабралася шматлікая беларуская група, каб прывітаць доўгачаканага гасьця.

У 4 гадзіны прызямліўся самалёт і нашая дэлегацыя із старым сябрам Ураду БНР сп. Чарапуком на чале прывітала спадара Прэзыдэнта, а дзьве дзяўчынкі, Веся і Слава Якімовічышкі, уручылі яму, як сымбаль нашых пачуцьцяў, букет бел-чырвона-белых кветак. Пасьля кароткіх і мілых гутарак з паасобнымі прадстаўнікамі нашай дэлегацыі, сп. Прэзыдэнт ад'ехаў спэцыяльным самаходам у «Левіс Готэль», дзе адбылася супольная нарада зь мясцовым сэктарам Рады БНР. 10 лютага адбылася ўрачыстая сустрэча чыкагскіх беларусаў з дастойным гасьцём, ладжаная Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Радай у Чыкаго. У прыбранай залі Баніцкага, упрыгожанай нацыянальнымі колерамі, сабраўся мясцовы актыў і чыкагская беларуская група, каб выслухаць даклад сп. Прэзыдэнта аб нашым вызвольным руху. Сустрэча пачалася нацыянальным гымнам, пасьля чаго віталі кароткімі й патрыятычнымі прамовамі сп. Прэзыдэнта прадстаўнікі ад Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады ў Чыкаго, ад мясцовага сэктару Рады БНР, ад Згуртаваньня Беларускай Моладзі, ад беларускіх жанчынаў.

У сваім дакладзе, часта перарываным бурнымі воплескамі, сп. Прэзыдэнт накрэсьліў у вобразных словах, у якіх умовах знаходзіцца наша вызвольная справа. Ён падкрэсьліў, што высілкі беларускай эміграцыі, а ў васаблівасьці Ўраду БНР, далі ўжо немалыя вынікі на міжнароднай арэне на карысьць нашага вызваленьня. «Ўжо мінуў той час, — казаў сп. Прэзыдэнт, — калі нашая справа была праблемай дыскусыі і ўсьведамленьня ў заходня-дэмакратычных краінах. Сяньня нашае пытаньне ўваходзіць арганічна ў праблему развязкі міжнародных справаў. Урады Амэрыкі, Англіі, Бэльгіі, Францыі й іншых краінаў зьвярнулі асаблівую ўвагу на вывучэньне нашае нацыянальнае праблемы».

«Паказьнікамі гэтага могуць быць: уключэньне Рады БНР у Амэрыканскі Антысавецкі Камітэт, падрыхтоўка маладой беларускай інтэлігенцыі ў Бэльгіі, падтрыманьне беларускай справы Ватыканам і інш.».

Далей сп. Прэзыдэнт падрабязна насьветліў, як прадстаўляецца справа ўваходу БНР у антысавецкі блёк разам зь іншымі народамі, у тым ліку і з расейцамі, што ў сваім часе выклікала шмат непаразумленьняў. Разьвеіўшы ўсякія дамыслы й закіды, як неабаснаваныя, сп. Прэзыдэнт заклікаў да больш актыўнай нацыянальнай працы, да каардынацыі высілкаў разам з БНР, якая непахісна стаіць на варце інтарэсаў беларускага народу й непадзельнасьці ягонай тэрыторыі ды вядзе змаганьне за вызваленьне й сувэрэнную беларускую дзяржаву.

Бурнымі воплескамі й нацыянальным гымнам закончылася афіцыяльная сустэча із сп. Прэзыдэнтам БНР. Пасьля гэтага адбыўся банкет у чэсьць паважанага гасьця, дзе ў сяброўскай атмасфэры, пры гуках беларускіх песьняў, прайшоў урачысты вечар, пакідаючы глыбокае ўражаньне ў прысутных. Сп. Прэзыдэнт аж да поўначы яшчэ гутарыў з нашай моладзьдзю.

Прэзыдэнт Рады БНР прабыў у Чыкаго цэлы тыдзень і меў магчымасьць спаткацца з нашымі старымі дзеячамі й рознымі прадстаўнікамі новай эміграцыі, выясьняючы шматлікія пытаньні нашага вызвольнага руху.

Як доказ пашаны й даверу да сп. Прэзыдэнта, Беларуска-Амэрыканская Нацыянальная Рада ў Чыкаго залічыла яго сваім ганаровым сябрам.

# Імпрэза на высокай мастацкай узроўні

23 лютага сёлета сябры нашага беларускага грамадзянства, што любяць і цэняць добрую музыку й сьпеў, мелі нагоду задаволіць свае эстэтычныя пачуцьці. Стараньнямі ўраду Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня быў наладжаны канцэрт ужо шыракаведамае нашым ньюёрскім слухачом сьпявачкі Надзеі Градэ пры акампаньямэньце кампазытара М. Куліковіча.

Спадарыня Градэ, як опэрная сьпявачка, новая й нязнаная шырэйшаму беларускаму грамадзянству паза Нью Ёркам зьява. Ейны ўваход у склад беларускіх вакальна-мастацкіх сілаў вельмі ўзмоцніў сям'ю нашых мастакоў.

Сцэнічная постаць і вонкавасьць сп. Надзеі Градэ, ейны моцны й прыемны голас (сапран) ды лірычнасьць выкананьня — узапраўды робяць кажнае ейнае выступленьне вялікаю ўдачаю, будзячы шчырыя сымпатыі слухачоў. Праграма канцэрту была ўложаная вельмі прыдумліва й удала. У яе ўвайшлі як клясычныя творы эўрапэйскіх клясыкаў, так і беларуская опэрная й песенная творчасьць.

Арыі й песьні першае часткі канцэрту былі выкананыя на лацінскай, італьянскай, нямецкай і францускай мовах. Некалькі твораў былі выкананыя й у добрым перакладзе на беларускую мову Н. Арсеньневай. На асаблівае зазначаньне заслугоўвае выкананьне «Авэ Марыя» Баха-Гуно, арыя «Батэрфляй» з опэры Пучыні «Чыо-Чыо-Сан» і апошні нумар першае часткі «Фіялкі» Падзіла, дзе, побач із дасканалым вакальным выкананьнем, сьпявачка паказала й свае сцэнічныя здольнасьці.

Другая частка праграмы складалася зь беларускіх твораў. Былі выкананыя «Арыя Кацярыны» з опэры «Кацярына», музыка кампазытара Куліковіча, два рамансы на словы Янкі Купалы — «Каб была я перапёлкай» і «Ты прыйдзі», Арыёза й Арыя Лады з опэры М. Куліковіча «Усяслаў Чарадзей» на лібрэта Натальлі Арсеньневай, «Песьня Настулі» з опэрэты «З выраю», тых-жа аўтараў, танго «Васількі» й дзьве беларускія народныя песьні: «Што за месяц» і «Халімон».

Іграў сьпявачцы сам добра ведамы ўсім беларусам кампазытар Мікола Куліковіч, які сваім мастацтвам спрычыніўся да ўражаньня, што гэты канцэрт пакінуў на прысутных. І сьпявачка й кампазытар былі ўзнагароджаныя гучнымі воплескамі.

**Н. К.**

## ШУКАЮЦЬ

**Аляксандра Савіцкага** ў веку 52 гады, народжанага ў вёсцы Казіна Слонімскага павету, шукае знаёмы Тодар Барысік.

Весткі слаць на Адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ РЭДАКЦЫІ

**На 25 Сакавіка — у дзень беларускага нацыянальнага сьвята — трыццаць чацьвёртай гадавіны абвешчаньня незалежнасьці Беларусі «Бацькаўшчына» выйдзе падвойным нумарам (8 балонаў). У гэтым-жа нумары будзе таксама адзначаны 30-летні юбілей літаратурнай творчасьці ведамай беларускай паэткі Натальлі Арсеньневай.**

**У сувязі з гэтым газэта за 16 сакавіка ня выйдзе.**

## АСАБІСТАЕ

**У каталіцкім катэдральным касьцеле ў Брысбэйне (Аўстралія) дня 1 сакавіка сёлета а 3,30 гадз. адбыўся шлюб сп. Бабыса Дзедаўца, былага беларускага вайскавіка, із сп. Гэртрудай Архібальд. З гэтай нагоды й у час распачацьця імі супольнага сужэнскага жыцьця, якое маладая Пара распачынае з Божага багаслаўленьня за пасярэдніцтвам касьцёла, складаем нашыя прывітаньні й налепшыя пажаданьні.**

**Урад ЗБВ у Аўстраліі.**



## Прадстаўніцтвы „Бацькаўшчыны“

**ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ:**

1. **У Бэльгіі:** Mr. Karas Leonid, 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.
2. **У Ангельшчыне:** **The Whiteruthenian Editorial Foundation 52, Penn Road, London, N. 7. England.**
3. **У Францыі:** Mr. Symaniec Vladimir, 15, rue du Ltn. Boncour, Neuilly s/Seine, France.
4. **У ЗША:** Mr. B. Danilovich, **222 Suydam St. New Brunsvick, N. J.,U. S. A.**
5. **У Канадзе:** Mr. Joseph Corny, 270 Clinton Str. Toronto, Ont., Canada.
6. **У Аргентыне:** Asociacion Bielorusa en la Argentina calle Coronel Sayos 2981, 4 de Junio prov. Buenos Aires, Argentina.
7. **У Аўстраліі:** Mr. Jackievic Donat, 60 Fisher Street, East Brisbane, Q-ld, Australia.
8. **У Вэнэцуэлі:** Dudzickj Vladimir, Crucesita a San Miquel 74, Caracas, Venezuela.
9. **У Новай Зэляндыі:** Mr. Karanieuskj Marjan, Burns Izonse, Mosgiel, New Zeeland.

**Непасрэдна з гэтых прадстаўніцтваў просім суродзічаў выпісваць «Бацькаўшчыну» і там-жа разьлічвацца за газэту.**

**ЦАНА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» ПАЗА НЯМЕЧЧЫНАЙ**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | ЗША | 15 цэнтаў |
| 2. | Канада | 15 цэнтаў |
| 3. | Вялікабрытанія | 1 шылінг |
| 4. | Францыя | 40 франкаў |
| 5 | Аўстралія | 1 шылінг |
| 6. | Аргентына | 2 пэзо. |
| 7. | Бэльгія | 5 франкаў |

Ува ўсіх іншых краінах раўнавартасьць 15 цэнтаў ЗША за 1 экзэмпляр.

**З прычыны дэвізовых абмежаваньняў у Нямеччыне грошы за «Бацькаўшчыну» з усіх краінаў паза Нямеччынай просім перасылаць на наступны адрас:**

**Mr. Jan Zaprudnik, 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.**